№ 21. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 21 (113). Год II. Вільня, 13 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ПАРЫЖ (Гавас). Заходны фронт здаецца выйдзе са сваей нерухавасьці. Азнакі дзеяцельнасьці учашчаюцца і прадвешчаюць здарэньня.

### 12 марца.

**Заходні тэатр:**

Вельмі ясная пагода у шмат якіх мейсцох выклікала павялічэную дзеяцельнасць гармат і лётчыкоў.

Асабліва сільны быў агонь у аколіцах Анкр, між Букуа і Транслюа; у некаторых мейсцох у ніз па Энь і ў Шампаніі агонь ажыўлёны. На палудзень ад Рэпон французы сягоньня раніцай аттакавалі часьці нашых пазыцій — яны былі адбіты.

У бітвах на паветры нашы ворагі страцілі 16 самалётоў і 2 балёны, ад абароннаго агня 1 самалёт.

**Усходні тэатр:**

Ажыўлёная артылерная і патрульная дзеяцельносць. Вялікшых бітвоў ешчэ не было.

*Македонскі фронт*: Паміж Архідай і Прэспай развіліся перад нашымі лініямі дробные сутычкі.

---

### Аустрыяцкае апавешчэньне

ВЕНА. 12. III. **Усходні тэатр:** Без асаблівых здарэньнёў.

**Італьянскі тэатр:** Супроць плоскагорья Карст італьянцы утрымлівалі мацнейшы гарматны і мінны агонь. Воражая аттака на Костан'евіцу адбіта.

---

### Швэдзкі крызыс

ШТОКГОЛЬМ. Прыняты прыяйные меры да закончэньня крызыса, чакаюць нарады ураду з верхаводамі партій. Гэтая вестка паказвае, што у міністэрстве наступіла згода па поваду англо-швэдзкіх перэгавороў.

БАЗЭЛЬ. У Італіі вялікая перамена генералоў лічыцца азнакай надхадзячаго вялікаго наступленьня.

ВАШЫНГТОН. Вільсон падпісаў дэкрэт аб скліканьні конгрэса на надзвычайнае заседаньне 18 марца. Апрача таго ён прэдпісаў марскому міністэрству уаружыць торговые караблі. У гэтым пытаньні усё міністэрство падтрымало Вільсона.

БЭРН. З Нью-Іорку паведамляюць, што ешчэ тры амэрыканскіе караблі атпраўлены у пояс блокады. З іх два у Лондон, трэйці у Гавр. Час атпраўкі невядомы.

ЖЭНЭВА. З Мэксыку паведамляюць: тайные сабраньня у каторых участвуюць, чысьленые жывучые у Мэксыку і прыбыўшые са Злучэных Штатоў немцы, адбываюцца штодзенна у Веракруце і Монтэрэй. Паводле чутак у Мэксыканскім заліве знаходзяцца абшырные провіянтные станціі для нямецкіх падводныхлодак.

Сягодня павінны адбыцца выборы прэзыдэнта Мэксыкі. Выбраны будзе напэўна ізноў Карранца. Ядыны контр-кандыдат Обрэгон такжэ староннік немцоў. Ўплыў немцоў у Мэксыку вялікі. Нямецкіе агенты знаходзяцца ва ўсей старане, а такжэ і ў Пэру, дзе такжэ выяўляецца нямецкі ўплыў супроць Злучэных Штатоў.

ПЕЦЯРБУРГ. Камандант чорнаморскаго флоту паведамляе, што на прошлым тыдні затоплены мінамі, або торпэдамі 4 ваенные транспорты па дарозі с Севастопаля у Армэнію.

ЛОНДОН. Здароўе, захварэўшаго на ныркі Грэя абеснакоіваючае.

ПЭКІН. Кітайскі прэзыдэнт усё ешчэ адмаўляецца споўніць вымогі кабінэту аб разрыве з Нямеччынай. Прэзыдэнт упіраецца на сваім паглядзе, што ён адзін мае права апавесьціць вайну.

ЛОДЗЬ. Нямецкая большасць у Лодзкай местовай управе пастанавіла завясьці нямецкую мову у ўнутрэнняй службе места.

---

## Абычаёвае права беларускаго селянства.

У сямейных стасунках беларускі селянін кіруецца, векамі злажыўшымся, абычаёвым правам. Право гэтае мае вялікую моральную сілу за сабой і немало даўнаго, архаічнаго.

Дагэтуль у нас сем'я мае дзьве формы: вялікая сем'я і малая семья.

У склад *вялікай сямы* уходзяць перш за ўсё родзічы-сваякі, напрыклад: нераздзеленые браты, дзядзькі і пляменікі, пасьля асобы прыйшоўшые у сям'ю па жанідзьбе, нявесткі і зяці (*прымакі*), прынятые у дом цесця, далейшые родные, або і саўсім ня родные прынятые у дом на варунках *здольніцтва*, у канцы прыёмышы і чэляднікі. Гэткім парадкам у склад вялікай сямы уходзяць як сваякі, так і не сваякі. Звязь, каторая злучае ўсіх у адно — гэто агульная праца на агульным кавалку зямлі, або агульны рыштунак працы. Пры гэтым маетнасць так сама лічыцца агульнай, бяз розніцы ці гэнай маетнасьцю кіруе старшы летамі ў сямьі, ці агульна прызнаны кіраўнік. Палажэньне сваякоў у сямьі само сабой зразумело, але палажэньне чужых вымагае паясьненьня.

Найперш а «прымаках». *Прымакамі* называюцца зяці, якіе пакінуўшы сваю сямью перайшлі у самью цесьця. Паводле абычаёваго права прымак, прынятый у сямью карыстае с правоў роднаго сына. Паводле гэтаго-ж права дачка, калі ёсць сыны, не мае права на зямлю, а толькі на рухомую маетнасць, прыгатаваную ей самой для сябе, або маетнасць прызнаную ей сямьёй. Гэткая асабістая ўласнасць у сямьі называецца «бондай». На бонду дачкі у сямьі зазвычай складаецца зробленае яе ўласнымі рукамі і способамі, або перэказанае ей—палатно, пасьцель, бялізна і адзежа.

У прымакі да сільных сямей ахвотна ідуць бяднейшые, кіруючыся чыста матэр'яльнымі камбінацыямі: атрымаць часць цесцевай маетнасьці.

„*Здольнікі*“ бяруцца у сямью калі недастае патрэбнаго чысла рабочых рук і пры дастатку зямлі. Здольнікоў найчасьцей прыймаюць удовы астаўшыеся з малымі дзяцьмі, а такжэ занепаўшые гаспадары падшуківаюць сабе здольнікоў са здаровымі рабочымі рукамі, грашамі, або інвэнтаром. Здольнік і яго семья карыстаецца правам членоў сямьі нараўне з усімі. Калі гаспадаркай і сямьёй кіруе сам гаспадар, ці гаспадыня, здольнік у стасунку да яго займае пазыцію брата, або сына, а калі гаспадара німа то здольнік бярэ на сябе яго функціі. Прыносячы у сямью сваю маетнасць, а глаўнае —працу, здольнік і яго сямья атрымліваюць права на рухомую і нерухомую маетнасць, з выключэньнем бонды. Гэткім чынам беззямельнік атрымлівае зямлю.

Народнае право не знае усыноўленьня, але з другой стараны яно разрожнівае двоякае палажэньне усыноўленых: прынятых на усынаўленьне і на выхованьне. Усыноўлены карыстае з усіх правоў сына ці дачкі, узяты на выхованьне толькі карыстае ад 18 гадоў с права найміта. За усыноўленых прызнаюцца тые толькі, аб каторых гаспадар пісьменна, перад сходам, або слоўна пры сьведках, сказаў што прыймае „замест сына“, або „замест дачкі“.

Чэлядзь, гэто наёмные, за умоўленую у год цану, найміты. Калі найміт выбірае што год сваю пэнсію, ён не мае ніякаго права у сямьі, але найміты якіе праслужылі ня меней 10 гадоў не выбіраючы сваей платы становяцца семьянінамі і карыстаюць з роўных правоў нараўне з усімі членамі сямьі.

Кіраўнік сямьі называецца пастароннымі „гаспадар“, сямей— „бацька“. Ен кіруе усімі мужчынскімі работамі, ведае грашмі, выступае перад урадам як прэдстаўнік сямьі. Аднакжэ ён павінен у важнейшых справах радзіцца з усей сямьёй. Час сямейных нарад народны абычай назначае па час вячэры.

Пераховываньне грошы самім гаспадаром у сябе, народнае право не пахваляе: грошы павінны хавацца у гаспадыні. Затое на гаспадару ляжыць абавязак моральнаго кіраваньня моладзьдзю, караньня і пахвалы; атпусканьня на работы на старану для заработкоў для сямьі і на бонду. Гаспадар акружэн знакамі павагі і пашаны: ён садзіцца за сталом на першым мейсцы «на куце», яму належыцца першае слово у радзе і пабожных адправах (напрыклад пры закліканьні «дзядоў» у задушную вячэру). Гаспадар ня толькі павінен кіраваць работамі, але і сваім асабістым прыкладам паказываць, як трэба працаваць. Дэспотычная ўласць гаспадара зазвычай вядзе да распаду сямьі, дзеля гэтаго гаспадар усё робіць са згоды і з рады сямьі.

Гэтак сама як гаспадар у мужчынскім аддзелі, так гаспадыня яўляецца кіраўніцай у аддзелі жаночай гаспадаркі. Найчасцей „гаспадыняй“ бывае жонка гаспадара, але здараецца што гаспадыняй бывае і іншая, старэйшая прэдстаўніца сямьі; усё тут залежыць ад асабістых здольнасцей і павагі. *В. Л.*

(далей будзе).

# У Вільні і ваколіцах.

—

× **Цэнтралізація урадоў.** Для упрошчэньня этапнай службы арміі на ўсходзе, Глаўнакамандуючый на ўсходзе загадаў 15 марца 1917 году злучыць абодвы упраўленьня Літвы і Вільня-Сувалкі у адно упраўленьне з местам бытаваньня у Вільні. Начальнікам гэтаго упраўленьня назначаецца старшы па рангу, с паміж двох начальнікоў гэтых упраўленьнёў, Oberstleutnant a la Suite der Armee князь von Isenburg—Birstein. Бывшый дагэтуль начальнікам упраўленьня Вільня-Сувалкі, маёр граф Іорк фон Вартэнбург, на сваё ўласнае жаданьне, выходзіць са службы.

× **Вэксэльные срокі.** Загадам Глаўнакамандуючаго на ўсходзе, прадаўжаюцца ад 1.—III—1917 да 30 чэрвеня гэтаго году.

× **«Расейскіе рублі».** Па загаду Глаўнакамандуючаго на ўсходзе, могуць давацца і прыймацца толькі па ўзаемнай згодзе.

× **Танная страўня крамніцкіх служачых.** Страўня крамніцкіх служачых аткрыта у мінуўшую нядзелю, Юр'еўскі праспект 56.

× **Скорая помач.** За апошні тыдзень дадзена скорая помач у 86 прыпадках, прычым у 56 прыпадках трэба было карыстацца каротка скорай помачы.

× **Апавешчэньне.** Пан Глаўнакамандуючый арміей у мінуўшым месяцы налажыў на ніжэйпісаные грамады, ў этапнай тэрыторыі, гэткіе контрыбуціі:

1) На грамаду **Перавозьнікі**, Владыславоўскаго павету, затое, што ў Перавозьніках у начы, з 29 на 30-е 1.—17, згарэў жылы дом, прычым згарэлі такжэ ураджайные запасы і агонь выбух ад неасцярожнасьці жыхароў дому —
кары **300 марак**.

2) на грамаду **Ядвігаво**, чырвінскаго павету, затое, што 28—I—17 згарэло гумно з ураджайнымі запасамі і пажар тлумачыцца неасцярожнасьцю аднаго жыхара,
кары 100 **марак**;

3) на грамаду **Мурыны**, Владыслаўскаго павету, затое, што 6—II—17 у Мурынах згарэлі сьвінарнік і склад для бульбы з ураджайнымі прыпасамі і пажар тлумачыцца неасцярожнасьцю аднаго жыхара,
кары 250 **марак**.

Е. Н. О. 1 марца 1917 году.
Der Etappen-Inspekteur
падп. v. **Trotta**,
Гэнэраллеўтэнант.

× **Курс рубля:** афіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 28 ф., пры куплі—2 м. 32 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 7 на 8 | — 4,5° | —13° |
| „ з 8 на 9 | — 6° | — 8,5° |
| „ з 9 на 10 | — 6,5° | — 9,5° |
| „ з 10 на 11 | — 5° | —13° |

# З усяго Краю.

### Воўкавыск і яго аколіцы.

ВОУКАВЫСК. У даліне, пры руччу Воўкавы, ляжыць паветовае место Воўкавыск, які перад вайной меў 16 тысяч, а цяпер каля 7 тысяч жыхароў. Гэто тыповае беларускае паветовае место, са сваімі нізенькімі дрэўлянымі домікамі і дробнымі крамкамі на рынку. Затое пекна выглядае место, калі глядзець на яго з узгоркоў лежачых на лево ад яго. Место здаецца тады аблямаваным анталяжай лясоў, паміж якімі самы выдатны лес, гэто—дзержаўнае лясьніцтво «Замковы лес».

Можэ стацца, што у будучыне гэтае беларускае мястэчко будзе служыць палецішчам для слабагрудых.

Але і з гістарычнаго боку Воўкавыск цікавы. У аколіцах места лежаць, так званые «швэдзкіе шанцы», — рэшткі земляных работ с часоў паўночнай вайны. Пры дарозі у Ізабэлін, высока на гарэ у лесі, знаходзіцца расейская ваенная магіла са сваімі высокімі крыжамі; далей у лесі параскіданы, то сям — то там паадзінокіе магілы паўшых у бітвах расейскіх і нямецкіх салдатоў, у часе бітвы у верэсьні 1915 году. У нізе пад гарой відаць курган насыпаны пад палёгшымі тут салдатамі напольёноўскай арміі, у 1812 гаду. Пры самым месце, каля дарогі у Ізабэлін, стаіць помнік, пастаўленый 5 гадоў таму, у памяць таго што, у сьнежні 1812 году, Кутузоў тут амаль што не злавіў Напольёна. Помнік, праўда, дрэўляны часова пастаўленый, пакуль будзе адліт праўдзівы. Пры самым помніку, на Кутузоўскай вуліцы знаходзіцца запушчэны пляц, дзе калісь стаяў маленкі домік служыўшый, пры адступленьні напольёноўскай арміі, адпачынкам для Напольёна.

### Рыхтунак да веснавых работ.

БЕЛАСТОК. У Беластоку і аколіцах ужо рыхтуюцца, у садах і гародах, да веснавых работ.

### Народная страўня.

СУВАЛКІ. У тутэйшай народнай жыдоўскай страўні выдаецца штодзень 1.200 порцій. Штомесячные расходы страўні 4.000 марак.

### Кара сьмерцьцю.

ВАРТЫ, кальварыйскаго павету. 20 лютаго лясьнік, Адам Малжынскі, за ваенную здраду засуджэн на сьмерць. Засуд выпоўнен расстрэлам.

### Крадзежы коней.

ТАТАРЫШКІ, вілкомірскаго павету. У ночы, з 28. II. на 1. III, украдзена пяцігадовая кабыла.

ПІВОНІЯ, пад Вілкомірам. У ночы, з 28. II. на 1. III, украдзена аднавокая кабыла.

### Становішчэ латышоў.

Латышскіе соцыал-дэмократы апавешчаюць у швайцарскай соцыал-дэмократычнай газэці «Tagwacht», што яны адмаўляюцца пасланць дэлегатоў на соцыал-дэмократычны з'езд, с саюзніцкіх дзержаў.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

—

### У Думе.

КОПЭНГАГА. Дэпутат Коновалоў у расейскай дзержаўнай Думе востра выступіў у абарону арэштаваных члэноў-соцыалістоў камітэту ваеннаго промыслу. Довады ураду, што арэштаваные працавалі на карысць заведзеньня рэспублікі, ён аб'яўляе няпраўдай. Арэштаваные споўнілі сваю грамадзянскую павіннасць. Яны, праўда, займаліся палітыкай, але гэто-ж не забаронено і расейскі грамадзянін не нявольнік. Расейскі урад борэцца з грамадзянствам.

Керэнскі, верхавод трудавікоў, сказаў: справа ідзе не аб арэштаваных работніках, а аб тым, што кожны расейскі падданы павінен мець право высказываць свае палітычные думкі і дзеля гэтаго павінен карыстацца са свабоды сабраньнёў.

### Расшчэп у Дзержаўнай Радзе.

ШТОКГОЛЬМ. Правая группа расейскай Дзержаўнай Рады расшчапілася: адна часць выбрала сабе на павадыра Маклакова, другая—Трэпова.

### Заседаньне Думы.

КОПЭНГАГА. На першым заседаньні дзержаўнай Думы, ўсе прамоўцы гарача гаварылі аб сумным палажэньні узапашэньня прадуктамі дзержавы, аднак прамоўцы стрымліваліся ад асаблівых нападак на урад, бо як кажэ газэта «Колакол» не хацелі рызыкаваць, роспускам Думы.

Міністар ратайства Рыттіх сказаў, што закупка збожжа для арміі робіцца усё труднейшай і труднейшай, бо сельскае насяленьне неспаўняе сваей патрыотычнай павіннасьці і хавае запасы.

Акцябрыст Шыдлоўскі, прачытаў заяву прогрэсыўнаго блёку, які выражае няверу ураду.

Соцыяліст Чхэідзэ нападаў на прогрэсыўны блок, які адмовіўся сур'ёзна разгледзіць згодліву прапазыцію Нямеччыны. Змяніць урадовую сыстэму можэ толькі сам народ. Цяперашні урад кіруецца у пропасць і ўцягне і нас с сабой.

Пурышкевіч сказаў: староннікі немцоў робяцца у нас усё сільнейшымі і сільнейшымі. Правіцельство дэморалізавано і пхае Расею у пропасць.

Прогрэсыст Ефрэмоў называе арэшт работніцкіх дэрутатоў, пашчочынай усяму расейскаму народу. Дзержава знаходзіцца перад катастрофай. Паміж насяленьня ўсё болей расьце роспач. Лік людзей, якіе ня верадь у Думу, расьце штодзень.

### Аб роспуску Думы.

КОПЭНГАГА. «Утро Россіі» паведамляе, што расейскі урад хочэ распусціць Думу. Выбары будуць назначэны, паводле слоў газэты, у восень 1918 году.

Урад думае, што ён мае право на гэто, бо аснаўные законы вымагаюць толькі сазыву Думы у кожным гаду, а ў гэтым гаду Дума ужо заседала.

### Працэс Манасэвіча-Мануілова.

ШТОКГОЛЬМ. Пецярбурскі акружны суд у канцы скончыў працэс, супроць палітычнаго агента Манасэвіча-Мануілова. Мануілов засуджэн на паўтара году турмы. Працэс гэты нераз перэрываўся с прычыны компромітуючых расейскае правіцельство раскрыцьцёў.

# Тры жаданьня.

(КАЗКА).

Было гэто даўно, калі ешчэ людзі ня ўмелі ні сеяць збожжа, ні жаць, ні будаваць сабе цёплых хат, пакуль не навучыў іх усяго гэтаго адзін мудры старэц Грымон. Калі Грымон навучыў усяго добраго людзей, ён пайшоў ад людзей, пакінуўшы іх самім сабе. Але адходзячы ён сказаў, што кожны можэ прыйсці да яго у госьці і высказаць якое небудзь жаданьне—толькі адно ня болей — і тады ён споўніць яго і дасць усякаму тое, чаго яму найболей хочэцца.

Але дайсьці да яго было цяжка: жыў ён далёка, далёка, сярод мора на востраві, за сотні міль адгэтуль. Вельмі многа людзей выбіралося ісьці да яго, але мала хто даходзіў.

Жылі-былі на сьвеці тры браты, якіе раз выбраліся у госьці да мудраго Грымона. Сем гадоў яны ішлі, узлезалі на горы паднябесные, праходзілі даліны абшырные, лясы цёмные і балоты непраходные аж у канцы сёмаго году пачулі сабачы брэх. Ішлі яны ешчэ тры месяцы і брэх с кожным днём рабіўся чутнейшы, у канцы яны прыйшлі да берагу мора. Тут іх убачыў мудры старэц, пераплыў морэ у вялікім каменным чоўне і ўзяў іх с сабой на востраў.

Вы і ў сьне ніколі не бачылі гэткаго харошаго вострава, гэтак на ім было зялёна, цёпла і вясёла. Старэц тры ночы і тры дні частаваў іх гэткімі мясамі, мёдамі і гарэлкамі, якіх яны ніколі раней не бачылі і ня думалі каб былі на сьвеці. Пасьля сказаў:

— Скажыце мне, чаго вы хочэце, і дзеля чаго вы перэбылі гэткую трудную дарогу, каб мяне убачыць!

Малодшы брат сказаў:

Я хачу быць гэткім забаўным, каб ніхто ня мог мяне слухаць бяз сьмеху.

Тады вялікі мудрэц пакапаўся рукой у зямлі, вырваў карэнь сьмехабуднаго зельля і сказаў: Як ты з'ясі гэто, ты будзеш самым сьмешным чэлавекам на сьвеці, і людзі будуць сьмеяцца як ты толькі адчыніш губу. Глядзі толькі ня еж карэньня перш чым дамоў вернешся

Малодшы брат падзякаваў і пасьпяшыў дамоў. Назад лёгка было ісці, так што замест сямі гадоў, ён прайшоў усю адлегласць у сем дзён. Але дзяцюк быў нецярплівы і ня мог стрымацца, каб не паглядзець ці споўніцца яго жаданьне і на шостую раніцу ён з'еў зельле.

Раптам ён пачуў, што на яго нешта найшло: ён стаў скакаць і крычаць з радасьці: курапаткі, што хацеў ён застрэліць сабе на сьнеданьне, расхахаталіся і паляцелі ў чарот; сарны такжэ са сьмехам уцяклі у лес і яму цэлы дзень нечэга было есьці. На другі дзень ён прыйшоў у сваю вёску. Ён хацеў сказаць сваім родным, як ён галодзен, але ня здужаў вымовіць і першаго слова, як усе хапіліся за жываты са сьмеху, а калі ён далей гаварыў, усе акружаючые сьмеяліся усё крапчэй і крапчэй—ім гэтак было сьмешна, што яны нічога не маглі разабраць, што ён казаў, гэтак голасна яны самі сьмеяліся. Пасьля яны дасьмеяліся да таго, што сталі качацца па зямлі трымаючыся за жывот, у канцы яны паўцекалі, пазапіраўшы хаты, бо ім прышлося-б памерці са сьмеху. Ён пачаў іх клікаць і прасіць, каб далі чаго з'есьці, але як толькі пачулі яго голас, то ізноў засьмеяліся, ў канцы канцоў крыкнулі, што яны заб'юць яго, калі ён ня пойдзе ад іх. Гэтак ён і пайшоў у лес і стаў там жыць адзін.

(Канец будзе).

